# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1744) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 15 КАСТРЫЧНІКА 1989 г. Цана 100 зл.





## І САПРАЎДЫ, КОЛЬКІ НАС?

Апублікаваны ў „Ніве“ № 35 ад 27.VIII. 1989 г. артыкул В. Хрысцініна „Колькі нас“ з'яўляецца чарговай спробай пошукаў адказу на пастаўленае пытанне. Трапны ўступ, статыстычная табліца і карты ствараюць уражанне абгрунтаванасці вывадаў. Аўтар піша, што „... аналіз галасавання дазволіць прыблізна арыентавацца, дзе і колькі нас, беларусаў, на Беласточчыне і якая ў нашых людзей нацыянальная свядомасць“. Прыблізна, дзе і колькі нас, мы ведаем даўно. Паводле вынікаў галасавання нельга рабіць станоўчых вывадаў, што ёсць нас каля 207 тысяч.

Гляньма яшчэ раз на карты (з памылковымі легендамі!). На першай можна далічыцца 20

(Працяг на стар. 6)



Круты паварот ракі Нараўкі.

Фота Я. Целушэцкага

„КУЛЬТУРА ЕСТЬ КУЛЬТУРА, ЕЕ КАК „ОБВЕТШАЛОЕ“ ИЛИ „ВОВСЕ НЕНУЖНОЕ СЕГОДНЯ“ НЕ ВЫКИНЕШЬ. КУЛЬТУРУ УБИТЬ НЕЛЬЗЯ... ОНА ЕСТЬ РИТМ (ТРАДИЦИЯ). КОМУ ИМЕТЬ УГОДНО УШИ И ГЛАЗА, ТОТ МОЖЕТ УСЛЫШАТЬ И УВИДЕТЬ“.

Аляксандр Блок

АЛЯКСАНДРА БЕРГМАН

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА АНТОНА ЛУЦКЕВІЧА

Загаварыць яшчэ раз пра Антона Луцкевіча прымусілі мяне два артыкулы пра гэтага выдатнага беларускага дзеяча (Уладзіміра Калесніка і Уладзіміра Казберука), апублікаваныя ў ЛіМе № 22 ад 2 чэрвеня 1989 года. Колькі ж гэта часу мінула, калі я пісала пра яго? Выкарыстала тады, здаецца, усе матэрыялы, дакументы, прааналізавала ягоную творчасць. Дык што цяпер — паўтарацца? Не, не. Зараз іншая эпоха. Больш праўды можна сказаць, чымсьці тады, і таму вяртаюся да Луцкевіча яшчэ раз, нанава. Гэтага патрабуе гісторыя.

Нехта з чытачоў можа думаць, што ў Польшчы ў нядаўна мінулых дзесяцігоддзях можна было ўсё гаварыць і публікаваць. Памыляюцца яны, на жаль, і вельмі. Таксама тут дзейнічала і дзейнічае цэнзура, асабліва абвостраная к Савецкаму Саюзу. Прыклад? Калі ласка. На стагоддзе з дня нараджэння Луцкевіча я напісала пра яго ў „Беларускі каляндар“ на 1984 год кароценькі артыкул. Але той, хто вырашаў, што ў ім мае быць, а дакладней кажучы, чаго ў ім быць не павінна — артыкула не прыняў.

Дык вось і ў нас дазвалялася гаварыць толькі „дыпламатычна“. У ранейшай маёй працы пра Луцкевіча было шмат „белых плям“ таксама па іншых прычынах. У Варшаве тады яшчэ жыло і працавала многа ўплывовых дзеячоў КПЗБ. Для іх Луцкевіч — стэрэатыпна — быў першым ворагам Камуністычнай партыі. Наіўна было б думаць, што яны не тармазілі...

Я добра тады ведала, што не ўсё змагу апублікаваць. Мяне гэта хвалявала. І хоць многія чытачы той мой артыкул з 1974 года ўспрынялі як рэабілітацыю Луцкевіча, мне ён да сённяшняга дня не дае спакою. Лічу, што многа ў ім усё-такі няспелых поглядаў. Але калі гаварыць пра Антона Луцкевіча, дык я даўно зразумела, што мы маем дачыненне з адной з найбольшых індывідуальнасцяў беларускага адраджэння. Ён усё сваё жыццё аддаў службе народу. Вестка пра яго афіцыяльную рэабілітацыю дайшла да мяне толькі ў гэтым годзе. Прыслалі мне выдадзеную АН БССР бібліяграфію ягоных прац. Сотні, сотні артыкулаў! І колькі кніг! Ужо з гэтай бібліяграфіі бачым, у якім шырокім дыяпазоне ён працаваў. Прычым ён не толькі пісаў. А прамовы! Колькі часопісаў ён рэдагаваў і друкаваў! Усё гэта мае для нас, для беларускай культуры, бясцэнную вартасць, якую мы дагэтуль маглі пазнаваць толькі ў аскепках. На жаль, мы наогул перасталі належна ацэньваць культуру, бяздумна аддаем першынства палітыцы.



З успомненых лімаўскіх артыкулаў вынікае, што, праўдападобна, іх публікацыю папярэдзіла дыскусія пра Луцкевіча і Тарашкевіча — так сказаць, хто з іх быў лепшым прарокам. Каторы з іх быў лепшым тактыкам — сацыял-дэмакрат ці бунтаўшчык Тарашкевіч? Я хачу затрымацца на асноўным пытанні, а іменна: каторы з іх лепш прадбачыў ці прадчуваў палітычныя вырашэнні Масквы ў адносінах да беларускага народа? Выходзіць, што „абое рабое“.

Калісьці ў Цэнтральным Архіве ЦК ПАРП у персанальнай папцы Б. Тарашкевіча ляжалі ўспаміны яго даўняга школьнага таварыша (Вацлава Бітнэра, члена хрысціянскай дэмакратыі, пасла ў Сойм). У гэтых запісах Бітнэр успамінае адну размову. У Сойме ён неяк запытаў Тарашкевіча, чаму ён такі прыхільнік Савецкага Саюза? Ці думае ён, што беларусам пад расейцамі будзе лепш, чым пад палякамі? На што Тарашкевіч меў адказаць: „Polacy ze swoją wysoką kulturą i tradycją — Białorusinów szybko zasymilują. W Sejmie wyraźnie i głośno mówią, że „za 50 lat nie zostanie w Polsce ani jednego Białorusina”. Z Rosjanami damy sobie radę”. Сёння ведаем, як ён трагічна памыляўся.

А якое было прадчуванне

(Працяг на стар. 4)

 

# Сіла і моц душы

Справаздачу аб Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы, ужо восьмага (ён адбыўся па плану ў апошнія дні мая), я ўжо апублікавала двойчы (у дзвюх газетах). Я паінфармавала чытачоў, што адным з членаў ацэньваючай камісіі фестывалю быў Віктар Роўда з Мінска — прафесар Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, дзе арганізаваў і вядзе 70-асабовы хор, мастацкі кіраўнік і дырыжор хору Беларускага радыё і тэлебачання — 80 чалавек.

Дырэктар Гайнаўскага дома культуры і арганізатар фестывалю Мікалай Бушко арганізаваў мне паўгадзінную сустрэчу з прафесарам. Мне вельмі хацелася атрымаць адказы на хвалюючыя мяне пытанні. Я іх сабе запісала і ў кабінеце дыр. Бушко мы галопам вялі размову. Вось мае пытанні да прафесара: 1) Як знаходзіце гайнаўскі фестываль царкоўнай музыкі і як яго ацэньваеце? 2) Праз восем гадоў ідзе ўжо фестываль, а з Беларусі прыехаў у мінулым годзе толькі адзін хор — свецкі — Гродзенскага педвучылішча з яго дырыжорам Аннай Стрыхай і спяваў царкоўныя канты і гімны (заваяваў I узнагароду). Чаму так мала? Калі прыедзе царкоўны хор з Мінска? 3) Ці Вы, прафесар, будзеце ратаваць за пашырэнне сувязяў і ў гэтай галіне мастацтва? I апошняе пытанне было такое: вядучы сёлетні канцэрт — канферансье з Варшавы сказаў ва ўступе, што праваслаўны спеў кшталтаваўся пад вялікім уплывам рускага і ўкраінскага народных спеваў. Не стану тут аспрэчваць блытанасці сцвярджэння, што было першае. Скажу толькі, што, наколькі мне вядома, між іншым, з Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, то напр. знаменны распеў (аснова асноў праваслаўнага спеву) нарадзіўся на беларускіх землях і то якраз беларускія творцы і мастакі, запрошаныя дзякуючы сваёй славе, паехалі ў Маскву і навучалі там знаменнаму распеву. Я прасіла прафесара Роўда коратка аднесціся да пытання аб майстрах царкоўнага спеву на Беларусі ў XVI—XVII ст.ст.

— * —

Праф. В. Роўда папрасіў мяне найперш перадаць падзяку дырэктару М. Бушко і ўсім арганізатарам (спонсарам — як цяпер гаворым) гайнаўскага фестывалю за запрашэнне яго да ўдзелу ў журы фестывалю. Прафесар расказаў, як то сустрэліся яны з Мікалаем Бушко ў Мінску ў мінулым годзе. Дыр. Бушко выслухаў спалучаны хор (кансерваторыі і радыё) — 150 чалавек і так пачалося.

— Я думаў, што прывязу сюды свой хор, ён бы ўпрыгожыў ваш царкоўны фестываль, але малавата часу, пакуль што не выйшла. У вас вялікіх хораў мала. Вялікі царкоўны хор, я бачу, ёсць пры саборы ў Гайнаўцы — гэта добра, але наогул хоры малыя. Само мерапрыемства — цудоўнае, як і цудоўны царкоўны спеў. Мы толькі нядаўна пачалі гэтакія творы спяваць. У Польшчы, як чую, нават студэнты з каталіцкіх асяроддзяў імкнуцца да спявання царкоўнай музыкі, адчуваюць яе прыгажосць. Зацікаўленне вялікае, хоць і не ўсе да глыбіні адчуваюць яе непаўторнасць. Праваслаўная музыка прыгожая, велічная, мірная. Трэба мець праваслаўную душу, каб сапраўды адухатворана яе спяваць. Нам трэба, мы павінны царкоўны спеў захоўваць, перадаваць далей.

На беларускай зямлі здаўна развівалася беларуская царкоўная музыка. Нашы продкі яе карпатліва захоўвалі. Карані знаменнага распеву, я б сказаў, шырэйшыя — славянскія. Славяне далі свету знаменны распеў. На ім стварралі вялікія свае творы рускія кампазітары. Не ведаю, ці ведаеце, што мелодыя гімна СССР узята Аляксандравым (пазнейшым стваральнікам і дырыжорам хору Чырвонай Арміі) са знаменнага распеву, дакладней гімна „Многая лета“? Сам Аляксандраў быў служыцелем у Храме Хрыста-Збавіцеля ў Маскве, разбуранага, як ведаеце, у 30-ыя гады.

Царкоўная музыка патрабуе многіх галасоў. Я хачу тут сказаць, што такі вялікі хор, як хор Гайнаўскага сабору — то вялікая справа. Айцец Міхаіл добрую справу робіць. Мне здаецца, што гэты хор павінен спяваць не толькі царкоўную музыку. Выйшаў I том песень Рыгора Шырмы — сто песень, там ёсць цікавыя. (У дужках хачу выясніць, што ў гэтым месцы нашай размовы я паінфармавала прафесара Роўда аб тым, што ў Гайнаўцы існуе вельмі добры беларускі свецкі хор, што некаторыя харысты спяваюць у двух хорах, што адбываецца кожны год вялікі конкурс беларускай песні і што ён павінен паслухаць гэты конкурс, а ГП БГКТ павінна яго запрасіць у 1990 г.).

Далей прафесар сказаў цікавыя весткі аб сабе.

— Я з царкоўным спевам знаёмы з дзяцінства. Жыў на Заходняй Беларусі. Вучыўся ў духоўнай семінарыі ў Вільні ў г.г. 1931—40. Вучыўся разам з вашым мітрапалітам Васіліем. Тады мы яго называлі Валодзя Дарашкевіч. Вучыўся я і разам з цяперашнім настаяцелем гайнаўскага сабора а. Антонам Дзевятоўскім. Цяпер працую з хорам Беларускага радыё і тэлебачання — вялікім прапагандыстам беларускай харавой музыкі. Мы спяваем творы беларускіх кампазітараў або рускіх на тэксты беларускіх паэтаў, таксама творы маладых беларускіх кампазітараў, для прыкладу — Андрэй Бандарэнка напісаў твор-паэму, прысвечаную князю Уладзіміру, на вершы Генадзя Бураўкіна. Наш хор гэта спявае. Пачалі ў апошні час уводзіць у праграму творы Часнакова, Цітова, Чайкоўскага.

У далейшым я даведалася ад прафесара, што калі б хор Беларускага радыё і тэлебачання быў запрошаны на гайнаўскі фестываль, ён, апрача ўдзелу ў конкурсе, мог бы даць 3—5 публічных канцэртаў у розных месцах. Яны ў бягучым годзе выступалі ў Мендзыздроях. Чаму б не мелі выступіць у Гайнаўцы? Скажу праўду — прыезд такога хору быў бы адным з найбольшых культурных падзей у дзейнасці беларускага культурнага руху ў Польшчы ад часоў, калі на Беласточчыне гастраляваў хор Рыгора Шырмы ў 1956 г., а дырыжыраваў яшчэ сам вялікі Шырма.



**Журы VIII Фестывалю царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы: Віктар Роўда, Мікалай Бушко, Рамуальд Твардоўскі.**

*Вера Валкавыцкая*
*Фота У. Завадскага*

# ПРАГРАМА

## ДЗЕН КУЛЬТУРЫ КАЎНАСА Ў БЕЛАСТОКУ 13—17.X.1989 г.

**13 кастрычніка (пятніца)**

гадз. 9.30 — праекцыя фільмаў творцаў-аматараў — у зале Акруговай установы распаўсюджвання фільмаў у Беластоку,

гадз. 12.00 — прэс-канферэнцыя — у кафэ „Эліда“,

гадз. 14.00 — адкрыццё мастацкай выстаўкі — у Галерэі сучаснага мастацтва,

гадз. 17.00 — канцэрт у выкананні Каўнаскага камернага аркестра і хору Schola Cantorum Bialostociensis — у Беластоцкай філармоніі.

**14 кастрычніка (субота)**

гадз. 17.00 — канцэрт Фальклорнага калектыву Вячэрняга факультэта Вільнюскага універсітэта — у Сухаволі,

гадз. 16.00 — спектакль для дзяцей „Чорная Ягадка“ ў выкананні акцёраў Лялечнага тэатра з Каўнаса — у Беластоцкім лялечным тэатры,

гадз. 17.00 — праекцыя аматарскіх фільмаў — у Бранску,

гадз. 19.00 — канцэрт эстраднай групы „Метрапаліс“ з Каўнаса — у Саколцы,

гадз. 19.15 — выкананне „Стабат Матэр“ Пергалезі Каўнаскім камерным аркестрам і хорам Schola Cantorum Bialostociensis — у Фарным касцёле ў Беластоку.

**15 кастрычніка (нядзеля)**

гадз. 12.00 — адкрыццё выстаўкі прац народных мастакоў — у Бюро мастацкіх выставак,

гадз. 11.00 — спектаклі для дзяцей „Чорная Ягадка“ — і 16.00 — у зале Беластоцкага лялечнага тэатра,

гадз. 17.00 — кантэрт групы „Метрапаліс“ і дэгустацыя рэгіянальных літоўскіх страў — у Клубе разрыўкі ў Беластоку,

гадз. 17.00 — канцэрт Фальклорнага калектыву — у Чорнай-Беластоцкай.

**16 кастрычніка (панядзелак)**

гадз. 19.00 — канцэрт ансамбля народнага танца „Скуцініс“ з Каўнаса — у Клубе разрыўкі ў Беластоку.

**17 кастрычніка (аўторак)**

гадз. 18.00 — заканчэнне Дзён культуры Каўнаса, гала-канцэрт у выкананні ансамбля народнага танца „Скуцініс“ з Каўнаса — у зале Драматычнага тэатра імя А. Вянгеркі ў Беластоку.



 

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ




### ГЛЫБОКАЙ ВОСЕННЮ

Любіў і люблю я дождж глыбокай восенню, халодны ды працяглы. За сцяною чуваць, як, сцякаючы з даху, струменьчыкі вады распырскваюцца на вымытых з зямлі каменьчыках ды кавалачках чарапіцы, што ў крапіве ля падрубы. ... Хтосьці спяшаецца па вуліцы, топчучы цяжкімі нагамі гнілое лісце.

Каля дзевятай гадзіны гаснуць агні ў вокнах, стары насценны гадзіннік сіпла звоніць. Па бруку пагрукатала запозненая фурманка на колах з жалезнымі шынамі, поўная мокрадзі, прастуджаная.

Як добра ляжаць у пасцелі, адчуваць цеплыню коўдры, сухой ды мяккай, засынаць моцным сном, які магчымы толькі ў халодную ды дажджлівую пагоду.

Сіпла звоніць стары насценны гадзіннік...

### ДОНЯ-ДОЧАЧКА

Прыбяры, дочачка, хату, бо я, старая, зусім змарылася. Пасяджу крыху на лаве, няхай ногі адпачнуць. Буду вячэру гатаваць, каб бацька не сварыўся, з малацьбы прыйшоўшы. Палі, дочачка, вазоны на акне, бо павялі яны і без пары пасохнуць. Падарыла іх мне бабуля твая, калі я замуж выходзіла. Цвітуць яны кожнае лета колерамі харошымі. Падмяці, доня, сенцы, бо, глянь, Сяргееў Юрык ідзе і мо да нас зойдзе. Памятаю, якраз на грамніцы ён нарадзіўся, матку яго даглядала я, ночы бяссонныя праводзячы. Стройны які вырас хлапчына, хоць у сваты выпраўляй зараз...

Куды бяжыш, дочачка?! Вазьмі хустку! Накінь на плечы, каб не прамерзла на вуліцы ветранай! Я сама ўжо як-небудзь прыпарадкую хату...

### АДРАЧЭННЕ

Куды ж ты, паперла, дзяўчына?!

Чаго гэта панясло цябе ў горад далёкі?

Шукаць лёс спадзяваны?...

Уцякала дзяўчына ад спакою вёскі, ад палёў васільковых, ад лугоў зарэчных... Прышлі, Кірачка, хоць ліст! Без цябе пуста тут.

### У ГЛЫБІ ДЗЯЦІНСТВА

Над галавою буйныя яблыкі, чырванашчокія мамінсыночкі, спелыя, напалоханыя пчоламі, падаюць у зелышча. Смяецца сонца, як добры валакіта, паміж градамі маку і слабее ад нямогарогату. Ломячы праменнямі высокую лебяду, коціцца яно ў Александроўку, у палеткі александроўскія. Заходзіць.

Зялёныя галіны і цёмнасіняе неба ў сініяках, стомленае. Вечарэе.

Акно пахне варанай бульбай, і свежым малаком, і цыбуляй са скваркамі. Расчыненае акно запрашае. Час вячэраць і спаць. Ногі просяцца ў пасцель, брудныя. Трэба іх памыць. Найгорш перад сном — гэта мыць ногі!

Калі гэта?

Трыццаць гадоў таму назад, на сорак пятым кіламетры ад Беластока, паўночна-ўсходнім.

---

Ірына Салавей

Юлік рана ўстаў, хуценька апрануўся, узяў кошык і пабег у лес па грыбы.

Ужо на ўскрайку ўбачыў прыгожы баравік. Уцешыўся і радасна сказаў:

— Грыбок, грыбок, а дзе твой браток?

Не паспеў адысці і пару крокаў, як убачыў яшчэ грыбок, яшчэ парачку. Не паспеў агледнуцца, а кошык быў ужо поўны.

Задаволены, вяртаўся дадому. Ціха напяваў вясёлую песеньку. Раптам убачыў на дарозе чорны кашалёк.

Юлік падняў яго, агледзеў.

— Напэўна, нехта згубіў і цяпер моцна перажывае. Але дзе знайсці ўласніка?

Дома Юлік спытаў у сястры, куды пайшла мама.

Мама даіла кароў. Юлік пайшоў да яе.




— Ужо назбіраў поўны кошык? — здзівілася мама.

— Ужо, — адказаў хлопец. — Мама, — пачаў ён нясмела, — я знайшоў чорны кашалёк. Не ведаю, што рабіць. Як знайсці таго, хто згубіў?

— Мне здаецца, доўга шукаць не прыйдзецца, — сказала мама. — Я ўчора вечарам была ў цёткі Насці. Да яе прыехаў сын. Ён пайшоў па грыбы і, вяртаючыся, згубіў кашалёк. Шукаў, ды не знайшоў. Там, апрача добрых некалькіх тысяч, былі дакументы. Занясі кашалёк туды.

Юлік пайшоў да бабулі Насці. На падворку сустрэў яго дзядзька ў вайсковай форме.

— Добры дзень, дзядзька Кастусь, — прывітаўся хлопец.

— Добры то ён можа табе, а мне не надта, — сумна сказаў ваенны.

— А я вось знайшоў гэты кашалёк, — падаў Юлік сваю знаходку.

— Ой, гэта ж мой! — радасна ўскрыкнуў Кастусь. — Дзе ж ты яго знайшоў?

Хлопец расказаў.

Юліка запрасілі ў хату, частавалі чаем і пірагом. Капітан хацеў даць яму грошай за прынесеную згубу, але хлопец адмовіўся.

— Добры ты хлопец, — сказаў дзядзька Кастусь. — Кім ты хочаш быць, калі вырасцеш?

— Буду лётчыкам, — нясмела адказаў Юлік.

— Добрая справа, — уцешыўся капітан. — А ведаеш, у мяне ёсць такая кніжка аб лётчыках і самалётах. Хочаш? Я падару табе яе на памяць аб гэтым здарэнні.

— Хачу.

Вярнуўся Юлік дадому, прыціскаючы кніжку да грудзей.

У школе ён расказаў хлопцам аб тым, што з ім здарылася.

— Я не аддаў бы грошай, — сказаў Уладзік. — Што з тае кніжкі! А грошы меў бы сабе. Кашалёк спаліў бы.

Хлопцы заспрачаліся. Клас падзяліўся. Адны падтрымлівалі Юліка, іншыя Уладзіка.

А што вы аб гэтым думаеце? Хто з іх меў рацыю і чаму?

---

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Нэлі Тулупава

### СЫРАЖУЙКІ

Дзед Пахом
І ўнук Алежка
Ў лес пайшлі
Па сыраежкі.

А за імі кот Мявука,
Певень Куд
І свінка Жуйка.
Дзедка тупае ля елак,
Разграбае мох кійком.
Ўнук ляціць наперад смела,
А дубец — ягоны конь.
Кот Мявука каля норкі
Адганяе пеўня: „Кыш!"
Шышку скінулі ваверкі,
Кот як скочыць!
Думаў — мыш...
Жуйка бегае па сцежках,
Пятачком лезе павядзе —
Там красуюць сыраежкі,
Як цюльпаны на градзе.
Лес прайшлі
З унукам дзед.
Не знайшлі грыбоў нідзе.
Што за дзіва, што за цуд?
Падлятае да іх Куд:
— Захварэла наша свінка,
І жывот баліць, і спінка...
— Што ты ела, Жуйка?
— Ела „сыражуйкі".
Каля сцежак,
Ля кустоў
Не адну,
А цэлых —
Сто!



Фота В. Жушмы

# ГЕАГРАФІЧНАЕ АСЯРОДДЗЕ

### ВАДА — ЗДАРОЎЕ ЧАЛАВЕКА

Геаграфічнае асяроддзе мае вялікі ўплыў на якасць вады. А ад вады залежыць наша здароўе. У горных мясцінах людзі адчуваюць недахоп ёду. У выніку гэтага часта здараецца хвароба шчытавіднай залозы — тарчыца. У нашай геаграфічнай шырыні якасць вады значна залежыць ад складу каменных парод.

Вада змяшчае ў сабе розныя хімічныя рэчывы. Да найбольш важных для чалавека залічваюцца: карбанат кальцыя, вокісы жалеза і марганца. А ў нашым арганізме вапна адкладваецца ў кровеносных сасудах. Тады ўзнікае хвароба — склероз, гіпертанія. Вада, у якой шмат вокісу жалеза ці марганца, проста атручвае арганізм.

Ваду трэба ачышчаць. Закісы жалеза і марганца трэба ператвараць у вокісы, каб яны выпалі на дно посуду. Колер асадка іржавы. Гэта ліманіт — руда жалеза. Ваду трэба фільтраваць праз медычны вугаль. А яшчэ гатаваць і адстойваць. Карбанат кальцыя ў сасудах трэба падвяргаць раствярэнню. На гэта ёсць спецыяльныя сродкі супраць склярозу. Да сённяшняга дня, аднак, мне не ўдалося іх абнародаваць.

Асадак на посудзе трэба ачышчаць слабым растворам салянай кіслаты. Накіп гэты вельмі шкодны. Ад яго ўтвараюцца камяні ў пячонцы і нырках.

### ГІДРАГРАФІЯ

Гідраграфія — гэта навука, якая займаецца вывучэннем рэк. Навука вельмі цікавая.

Раўнінныя рэчкі, дзе хуткасць цячэння вельмі малая, падвяргаюцца зарастанню іх рэчышчаў. Асабліва ў балоцістых мясцінах.

Бельск-Падляшскі. Рака Белая. Шырыня рэчышча тут 4,5 м; глыбіня 0,7, хуткасць цячэння 0,5 м/секунду. Месца доследу: 190 метраў вышэй месца, дзе ўпадае ў Белую рака Любка, гэта значыць, ад вусця р. Любка.




Дно р. Белай зарасло стрэлкалістам (1), плюшчам (2), элядэяй (3). На вадзе плавае раска (4). Ад зарастання хуткасць цячэння памяншаецца. Узровень вады ўзнімаецца і забалочваецца даліна. Грунты тарфяністыя. Вада забруджана ад малачарні. Няма ніводнай рыбкі! А там, дзе ўпадае р. Любка, атручванне ўзмацняецца сцекамі з ільнозавода.

**Інж. Б. Рудкоўскін**
**Графіка аўтара**

# Вясёлы куточак

— ✻ —

— Калі б у цябе было шэсць аўтамашын, даў бы ты мне адну?
— Даў бы.
— А калі б у цябе было шэсць кашуль, даў бы ты мне адну?
— Даў бы.
— А калі б у цябе было шэсць насавых хустак, даў бы ты мне адну?
— Не.
— Чаму?
— Бо ў мяне ёсць шэсць.

— ✻ —

Дзядзька едзе поездам з Беластока ў Варшаву. У купэ заходзіць кантралёр і правярае білеты.
— У вас білет з Варшавы ў Беласток. Ён неактуальны на гэты поезд.
— Няўжо? Дык скажыце свайму машыністу, што ваш поезд едзе не ў той бок!

— ✻ —

— Ты паглядзі, — кажа Міхась брату, — мае штаны пасля мыцця моцна зменшыліся. Што рабіць?
— Можа, памый і ногі? — падказвае брат.

— ✻ —

Дзеці прыехалі да бабулі на канікулы.
— Бабуля, а дзе ў цябе лазенка?
— Няма ў мяне.
— Ура! У нас будуць сапраўдныя канікулы!

— ✻ —

— Майстар, вы ўсё гэта малявалі ўласнымі рукамі?
— Уласнымі. Трошкі яшчэ пэндзлем карыстаўся.

— ✻ —

### ЧАТЫРЫ НАГІ

*Настаўніца:*
— Эля, назаві некалькі хатніх жывёл, якія маюць чатыры нагі.
*Эля:*
— Сабака, карова, конь, кот...
*Настаўніца:*
— А яшчэ?
*Эля:*
— Дзве курыцы.

# Вершы Віктара Шведа

### ТАТА НЕ ІМПЕРАТАР

*— Ты мне адбіраеш нават сон,*
*Абібок ты бездакізны, Вася.*
*У тваіх гадах Напалеон*
*Быў найлепшым вучнем заўжды ў класе.*

*— Разлажыў сябе ты нападаў:*
*У тваіх гадах, мой мілы тата,*
*Ён быў пераможны генерал,*
*Францыі магутны імператар.*

### КАЛЮЧЫ ЗВЯРОК

*Бабуля каля дому*
*Спыталася: — Унучак,*
*Вось ці табе вядома,*
*Які звярок калючы?*

*Успомніўшы шчаціння*
*На твары так багата,*
*Сказаў ён праз хвіліну:*
*— Дык гэта ж будзе тата!*

### ЯПОНСКІ ТЭЛЕВІЗАР

*Можна з кожнага капрызу,*
*Безумоўна, скарыстаць,*
*І японскі тэлевізар*
*Як захочам, дык прыдбаць.*

*Справа тут не толькі ў плаце,*
*Што шмат грошай трэба мець.*
*Па-японску ў нашай хаце*
*Не патрапім зразумець.*

### АТРУТНЫЯ ГРЫБЫ

*Мама аблаяла сынкоў,*
*Калі прыйшлі дадому.*
*З лесу прынеслі шмат грыбоў*
*Атрутных, невядомых.*

*— Не будзем, мама, гатаваць,*
*Тым больш іх потым есці.*
*Запланавалі іх прадаць*
*Мы на базары ў месце.*

### ЮЗІК ПРАГЛЫНУЎ ГУЗІК

*Скардзіцца маленькі Юзік:*
*— Даражэнькая матуля,*
*Нечакана сёння гузік*
*Праглынуў я ад кашулі.*

*— Не расказвай пры абедзе,*
*І не псуй нам апетыту.*
*Дык прынамсі будзеш ведаць,*
*Дзе твой гузік дрэмле скрыты.*

### БАБУЛІН СКАРБ

*Бабуля зямельку капае,*
*Чорную, быццам бы фарба.*
*— Чаго ты, бабуля, шукаеш?*
*Бабуля адказвае: — Скарбу.*

*Унучак падумаў хвіліну*
*І пачынае дзівіцца:*
*— Стаіць побач скарб твой адзіны,*
*Годзе ў зямлі гэтай рыцца!*

### НОЕЎ КАЎЧЭГ

*— Патоп быў караю за грэх,*
*За нашых праШчураў падзенне.*
*Чаму вось Ной на свой каўчэг*
*Забраў па пары ўсіх стварэнняў?*

*Адказ заўсёды даць гатоў*
*Выдатнік баявы Валерык:*
*— Таму што быццам у буслоў*
*Ной дабрадушны не паверыў.*

### РАЗУМНЫ САБАКА

*Дзядуленьку старога*
*Спытаў унук Андрэй:*
*— Чаму ў сабакі многа*
*Сяброў сярод людзей?*

*— Таму што ён не круціць,*
*Не меле языком,*
*А ўсе свае пачуцці*
*Перадае хвастом.*

# ПАЗНАЁМІМСЯ

СССР, 346527, Ростовская обл., г. Шахты, ХБК, ул. Текстильная, 43, кв. 73. Чернушкиной Ирине (8 клас).

— ✻ —

БССР, 225320, г. Баранавічы, бульвар Барадзінскага, 5, кв. 128. Жодзік Наташа (6 клас).

— ✻ —

СССР, 600028, г. Владимир, пр. Строителей, 15, кв. 42. Смирновой Елене (13 год).

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Дапамажы гноміку знайсці ў лесе свайго сябра. Дарога вядзе праз хітры лабірынт.


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Зорка".

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) ніжняя частка верхняга адзення, 4) з пераяслам, 6) найчасцей яно ў сцяне, але бывае і ў багне, 7) бэзу або парэчак, 8) чучала, пудзіла, 11) у сярэдзіне дня, 13) корпаецца на ўчастку зямлі, 18) вучыць мове, 20) гліняная пасудзіна з вузкім горлам і шырокімі бакамі, 22) патэльня з кавай і радай, 24) калі вучымся, тады іх здабываем, 25) псаломшчык, 26) уюн, 27) яд.

**Уніз:** 1) месяц, у якім мучацца грэшнікі, 2) горад у ГДР, вядомы з канферэнцыі ў 1945 г., 3) удастоены вялікай узнагароды, 4) курорт над Чорным морам, 5) старажытны горад на Дзвіне, 9) геалагічная форма залягання горных парод (можна ўлажыць яе са слова „шкот"), 10) шолахаўскі ціхі, 12) невялікі рэстаран або буфет, 14) адна з другой не сыйдуцца, 15) адпачынак з вудачкай, 16) умова, але не абставіны, 17) Сакрат, 18) галоўны герой паэмы Я. Купалы „Курган", 19) джаліць, 21) ільдзіна, якая плыве, 23) на ёй плывае ільдзіна.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 36.**

**Упоперак:** бамбіза, рэверс, бардо, нячысцік, іскра, пакунак, турнір, сіноптыка, Абба, хрысціянства.

**Уніз:** бібліятэка, марак, ікона, Арочка, авёс, краіна, Рэнесанс, пранікі, карп, нары, конаўка, Трус, бор.

**Кніжныя ўзнагароды выйгралі:** Віктар Кавалькоў з Данілавіч і Валянцін Ермаловіч з Магілёва.



# НАЎКА



— Пачакай хвіліначку — прачытаю толькі, як гэта ўсё скончылася.

# АФАРЫЗМЫ

Афарызмы — гэта дасціпнасць філасофіі.

*

Некалькі блазнаў сказала пры стале: толькі мы з'яўляемся пачэснай кампаніяй. І паверылі ім.

*

Неразумна лісліві сабе, думаючы, што ўгаворыш у іншых тое, у што сам не верыш.

*

Чалавек, які ў жыцці кіруецца толькі розумам, памыляецца найчасцей.

*

Неабходнасць вызваляе ад мукі выбару.

*

Яснасць — гэта сумленнасць філасофіі.

*

Роспач павялічвае не толькі нашы няшчасце, але і нашу слабасць.

*

Абяцаем многа, каб выкруціцца даць што-небудзь.

*

Перакананасці розуму не заўсёды спадарожнічае перакананасць сэрца.

*

Калі не пішам таму, што думаем, то бязмэтна думаць, каб пісаць.

**Вавенарг**

## ХАТНЯЯ ЭКАНОМІКА

Зарабляю я нядрэнна, і жонка капейчыну дахаты прыносіць. Але кожны месяц ад палучкі да палучкі ледзь канцы з канцамі зводзім. І я прыйшоў да вываду, што прычына гэтага — нясплануванае вядзенне хатняй эканомікі. Адсутнасць абгрунтаванага плана — вось у чым карані нашых хвароб.

— Трэба паставіць хатнюю эканоміку на цвёрдую планавую аснову — вырашыў я.

Перш-наперш старанна падсумаваў усе даходы сям'і. У спецыяльным сшытку, разлінеенымна графы, разлічыў выдаткі, і ўсю суму прыбыткаў расклаў на фонды.

Найбольш вялікі фонд адпусціў на харчаванне. Немалую частку даходаў заняў і фонд адзення. Тут я пастараўся ўлічыць і хуткацечнасць моды, і густ жонкі, накінуў працэнт і на дэфіцыт...

Астатнюю частку грошай я падзяліў на культурны фонд — у кіно, на марожанае дзецям, а ў глыбіні душы спадзяваўся мець з гэтага фонда і нядзельную куфлю піва...

Прадугледзеў таксама страхавы фонд — на ўсякія непрадбачаныя выдаткі, а таксама фонд матэрыяльнага заахвочвання.

Становішча нашай хатняй эканомікі пасля ўкаранення новага метаду гаспадарання адразу пайшло ўгору. Усё па плану, кож ая капейка на ўліку... Дабрабыт сям'і адразу ўзрос, хутка з'явілася магчымасць нават павялічыць страхавы фонд і фонд матэрыяльнага заахвочвання.

Аднойчы, калі я прыйшоў увечары з работы дахаты, да мяне пташачкай падляцела жонка, пацалавала ў шчаку.

— Мілы, што я купіла! — радасна ўскліκнула яна.

— З якога фонду? — адразу пацікавіўся я.

— З фонду адзення і абутку... Праўда, яго не хапіла, давялося патраціць таксама стрававы фонд, і матэрыяльнага заахвочвання... І зусім трошкі харчовага... Але ты толькі паглядзі, якія цудоўныя боцікі я купіла!

**Васіль Феранц**

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ШТО Ж ТЫ, СЕЛЯЗЕНЬ...
(народная)

— Што ж ты, селязень, ох,
Смуцён, невясёл?
— Як мне, селязню, ох,
Быць вясёламу?

Як мне, селязню, ох,
Быць вясёламу,
Што ўчора была, ох,
Вутанька мая.

Што ўчора была, ох,
Вутанька мая,
А цяпер яна, ох,
Да й падстрэлена.

Ой, каб на вадзе, ох,
То не жаль бы мне,
А то у садку, ох,
На жоўтым пяску.

— Што ж ты, казача, ох,
Смуцён, невясёл?
— Як мне, казаку, ох,
Быць вясёламу?

Як мне, казаку, ох,
Быць вясёламу,
Што ўчора была, ох,
Дзеўчына мая.

Што ўчора была, ох,
Дзеўчына мая,
А цяпер яна, ох,
Заручоная.

Каб церез сяло, ох,
Той не жаль было,
А то ж цераз двор, ох.
Да й таварыш мой.

Па ваду ідзе, ох,
Броўкамі маргне,
А з вадою йдзе, ох,
Ручкаю махне.

А з вадою йдзе, ох,
Ручкаю махне,
Да й мне, казаку, ох,
Жалю задае.




## ЛЕКАР І ПАЦЫЕНТКА

Лекар да жонкі пацыента:

— Ці ваш муж п'е раз у дзень кілішак чырвонага віна, так як я рэкамендаваў?

— Так, пане доктар, ён ужо перавыканаў план на паўгода наперад.

## ЖУРНАЛІСТ І ШЭФ

Пачынаючы журналіст слухае заківы шэфа, які гаворыць, што той піша расцягнутым стылем. Праз нейкі час журналіст-навічок вяртаецца ў кабінет рэдактара з перапрацаванай нататкай:

„Жан Дзюран сёння раніцай праўраў працу ліфта ў атэлі „Франс". Яму было 25 гадоў".



Глядзі, каб на сустрэчы з цікавым чалавекам не сказаць замнога.